Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 30.000 м. п.



# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 250000 м.п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Нявынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 45.000 мк., сярод тэксту 35.000 м. і на 4 стр. 30.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 12. Вільня, Пятніца, 30-га лістапада 1923 г. Год I.

## Польскае праваслаўе.

Гэтымі днямі п. К. Чапіньскі ў перадавой стацьці ў „Robotniku“ вельмі абураўся на польскіх камуністаў за тое, што яны гавораць аб праве беларусаў, падзеленых рыжскім трактатам, злучыцца ізноў у адзін суцэльны арганізм, згодна з прынцыпам самаазначэньня нацыянальнасьцяў. Лідэр пэпэсаў бачыць у гэтым імкненьне камуністаў да адарваньня „kresów wschodnich“ і вінаваціць іх у процідзяржаўнай рабоце. — А яшчэ так нядаўна другі лідэр гэтае самае партыі, п. І. Дашыньскі, *учасьнік рыжскага міру*, адзін з вінавайцаў падзелу Беларусі, публічна ў Сойме адказаўся, што некалі пахваляў гэты падзел!...

Мы бы не зачапілі гэтых камэдыянцкіх выступленьняў польскіх нацыянал-сацыялістаў,— але голас п. Чапіньскага прыпомніць нам, што не адны эндэкі, не адна „Хіена“, але і так-званыя „старыя“ пэпээсы з Дашыньскімі і Чапіньскімі маюць *адну супольную палітычную лінію, калі ідзе аб захват і дэнацыяналізацыю сумежных беларускіх і украінскіх зямель.*

У гэтым імкненьні да спольшчаньня „kresów wschodnich“ польская ўлада ўжывае самых радыкальных крокаў, цьвёрда перакананая, што ня толькі „правіца“, але і добрая палова „лявіцы“ не асудзіць яе за гэта, ды у душы нават пахваліць. І вось, пасьля аканчальнае ліквідацыі беларускае народнае школы, распачатае яшчэ за „панаваньня“ п. Пілсудскага, польская ўлада зьвярнула ўвагу на другую—ўсё яшчэ даволі ўплывовую — установу ў Заходняй Беларусі: на праваслаўную царкву. Прыклад таго, як працуе для справы спольшчаньня беларусаў-каталіком вялізарная большасьць каталіцкага духавенства, даў польскаму ўраду думку *абярнуць у такое-ж паслухмянае instrumentům палянізацыі так-жа і праваслаўнае духавенства.*

Калі—два гады таму назад—польскі ўрад пастанавіў аддзяліць праваслаўную царкву ў Польшчы ад маскоўскага цэнтру, сярод праваслаўнага духавенства знайшліся біскупы, якія на гэта прысталі, паставіўшы, аднак, такую ўмову: праваслаўная царква ў Польшчы мае быць самастойная, але павінна прыняць характар *нацыянальнае* царквы—*на Беларускай тэрыторыі беларускае, на Украінскай—украінскае.* І першы галава аўтокефальнае царквы ў Польшчы, мітрапаліт Юры, пачаў фактычна работу ў кірунку яе зьбеларушчаньня і украінізацыі.

Аднак, забойства мітрапаліта Юрыя зусім зьмяніла ход выпадкаў. Наступнікі яго, пачуўшы смак улады і ўрадовае „апекі“ (чытай: урадовых грошы!), „забыліся“ аб тым, аб чым умаўляўся мітр. Юры, і пачалі пакорна выпаўняць накінуты ім плян польскага ўраду, які не здаволіваецца ўжо незалежнасьцяй праваслаўя ў Польшчы ад Масквы, а хоча зрабіць яго *напаўнальна-польскай царквой*. Ня гледзячы на ўсю *дзікасьць* думкі аб тым, што на Беларускай і Украінскай зямлі ў праваслаўныя цэрквы можна ўвясьці — замест народнае мовы—мову польскую, „навасьпечаныя“ царкоўныя павадыры пайшлі насустрэчу плянам дзяржаўнае ўлады і распачалі работу дзеля *падгатоўкі праваслаўных сьвяшчэнікаў, якія маюць увясьці ў царкоўную службу польскую мову і — праз царкву—памагаць уладзе польшчыць беларусаў і украінцаў.*

Паводле пляну, апрацаванага п. Гломбіньскім, у першы чарод пастаноўлена *спольшчыць Віленскую Праваслаўную Духоўную Сэмінарыю.* Відаць, склад пэдагогаў гэтае сэмінарыі — старых маскоўскіх чорнасоценцаў—паказаўся п. Гломбіньскаму больш адпаведным дзеля гэтай „пачэснай ролі“, чым Духоўнае Сэмінарыі у Крамянцы, дзе ўжо пачалася украінізацыя. І п. Гломбіньскі не памыліўся: мы ўжо адзначалі, ў якім духу ўзгадоўваюцца вучні віленскае сэмінарыі, як ік падбураюць проці ўсяго беларускага і ўмаўляюць ім, што яны... „палякі“. Дадамо, што сэмінарская ўлада пусьціла міма вушэй усе пастановы эпархіяльных зьездаў аб увядзеньні ў сэмінарыю беларушчыны: для маскоўскіх чорнасоценцаў яна больш ненавісна, чым польская мова, бо... за ўвядзеньне польскага выкладу „пахнуць“ казённыя пэнсіі.

Ды мала таго. Як відаць, сучасныя павадыры „самастойнае“ праваслаўнае царквы ў Польшчы пастанавілі ня ждаць выпуску з віленскае сэмінарыі „істінно-польскіх“ бацюшак, а зразу прыступіць да ўвядзеньня польскае мовы ў царкву. У апошнім нумары нашае часопісі ўжо пісалася, што 21 лістапада ў мітрапалічай царкве ў Варшаве *пратаярэй Мартыш выступіў першы раз з казаньнем па польску.* Трэба думаць, што за гэтым пасьледуе загад праваслаўным сьвяшчэнікам на „крэсах“ таксама гаварыць казаньні ў царквах па польску.

Мы ні на адну мінуту не сумліваемся, што старое маскоўскае чорнасоценскае духавенства пакорна споўніць гэты прыказ, так, як яго спаўняюць і кіраўнікі Віленскае Праваслаўнае Сэмінарыі. Але ёсьць ужо, дзякуй Богу, і сьвяшчэнікі беларусы, дый хіба сам народ наш здалее даць належны адпор усім тым, хто дзеля казённага „пайка“ адважыцца абярнуць царкву ў арудзьдзе апалячываньня нашага народу, хто захоча таргаваць нашай нацыянальнай душой. Мы перакананы, што новая палянізатарская „афэра“ акажацца ў сваіх выніках таксама недасягаючай мэты, якім аказалася і вайсковае асадніцтва, хаця яго так энэргічна падтрымалі *ўсе* польскія партыі і кірункі...

А для ўплываў праваслаўнае царквы — і царквы наагул—на беларускія і украінскія народныя масы *ідэя нацыянальна-польскага праваслаўя бязумоўна акажацца забойчай.*



## Дзьве „P.O.W.“ ці—два сьвяты — у адзін дзень.

(Угодкі Zmartwychwstania Польшчы).

I.

10—11 лістапада адбыўся ў Варшаве ўрачысты зьезд „Polskiej Organizacji Wolności“.

Ня можна сказаць, каб урачыстасьць у часьць першае багіні рэспубліканскай Тройцы—*багіні Вольнасьці*—ў Польшчы адзначылася асаблівай пышнасьцю ці радасным і жывым настроем... ці нават паважным дастойным багіні зьместам рэлігійнага рытуалу...

Перадусім вельмі сымвалічна для польскага аспэкту гэтай багіні, што зьезд „дэлегатаў Польскай Вольнасьці“ адчыніў „обыватэль Довнаровіч“—відаць, той самы п. Довнаровіч, які, будучы калісь міністрам унутраных спраў у адным з „лявіцовых габінэтаў“, высяляў—відаць, у часьць гэтай самай багіні — праз падуладных яму агентаў дзяржаўнай паліцыі—бедную сям'ю нейкага другога „обыватэля“ Рэспублікі—з падабаўшайся і патрэбнай яму асабіста кватэры...

Наагул трэба адзначыць, што большасьць сабраўшыхся на зьезд адэптаў „Польскай Вольнасьці“ не магла пахваліцца нават і гэткай „вядомасьцю“— бо хто ў Польшчы чуў калі, напрыклад, аб выбраным у старшыні зьезду п. Погоўскім... ці — ведае большасьць тых „палітычных правінцыялаў“, якія ўвайшлі ў склад прэзыдыуму зьезду, прыдаючы яму нейкі „павятовы“ характар...

Настрой зьезду і характар яго працы ня толька ня былі, як сказана, бадзёрна-радаснымі, але можна сказаць—былі папросту *„хаўтурнымі“*!!

Дапраўды — першае, што прыйшлося зрабіць, пасьля адчыненьня зьезду, было як падаў „Kur. Pol.“, *адданьне „hołdu“ „забітым у Кракаве* 6/XI *ваенным і цывільным“*—ахвярам на аўтар польскага аспэкту багіні Свабоды...

Далейшыя „wnioski“ былі таксама амаль ня ўсе такія-ж „жалобныя“, „хаўтурныя“...

Перадусім, як гэта ўжо ўвайшло ў „рытуал“ усіх лявіцовых сабраньняў, быў выражаны „hołd“ „тварцу польскай арміі“, якая, відаць, зьдзейсьняе перадусім „Арганізацыю Вольнасьці“ ў Польшчы, — „hołd“ *„нябошчыку“ Пілсудскаму...*

Пасьля, як падае „Kur. Pol.“, ізноў выразілі „глыбокае спачуцьцё ахвярам кракаўскіх выпадкаў, ваенным і цывільным“...

Пасьля гэтага зьезд выразіў „пратэст проці карыстаньня войскам для братазабойчае барацьбы, як падпоры сучаснага ўраду, пазбаўленага маральнага аўтарытэту, і—таксама проці зьніштажэньня маральных сілаў войска і тых вязяў, якія лучаць армію з народам“...—пратэст, які зьяўляецца запраўднай „жалобнай імшой“ над страціўшай сваю апошнюю апору „Польшчай Пілсудскага“...

Пасьля гэтага—ізноў абвешчаны быў такі самы *„жалобны пратэст“* проці... распараджэньня аб аддачы пад тайны нагляд паліцыі таго самага „тварца Польскай арміі“ і—„Польскай Вольнасьці“ — „нябошчыка“ Язэпа Пілсудскага...

Урэшце выразілі такі самы *„хаўтурны“ — бо зусім бязьсільны*—славесны пратэст проці „фашыстаўскіх замахаў у Польшчы“...

Вось і ўвесь зьмест першага дню працы „дэлегатаў Польскіх Арганізацыяў Вольнасьці“ на зьезьдзе.

Усюды—заместа жывой багіні Волі—„нябошчыкі“ Пілсудскі і іншыя...

Дапраўды—нейкая *сумная паніхіда па багіні Вольнасьці ў Польшчы...*

Але-ж і на другі дзень было мала што вясялей.

Амаль ня ўвесь дзень заняў даклад праф. Суйкоўскага „аб эканамічным і фінансавым палажэньні“ ўжо 5 гадоў, як паўстаўшай з мёртвых Польшчы, даклад, які, зразумела, ня мог быць нічым іншым, як *самай „жалобнай імшой“ над польскай маркай...*

І хаця другі „рэфэрат“ нарэшце „podniosł hasła P. O. Wolności i jej pracy na dobro Państwa, але—на жаль толькі „Kur. Pol.“ не гавора ані слова аб тым, *якія гэта былі „hasła“, і якая праца* зроблена „Арганізацыяй Вольнасьці“ у Państwie...

„Дапаўняючы даклады“, вядомы ген. Бабянскі запрапанаваў далей, каб *„дзень* 11/XI *быў абвешчаны Сьвятам, як дзень Уваскрасеньня Незалежнай*

вымі, так і цывільнымі ў значна большай меры, чымся было гэта да апошніх часоў. У 1924 годзе—згодна словам Міністра—мае быць распарцэлявана для палякаў найменей 400.000 маргоў зямлі на „крэсах“, і што свае пляны зямельнае рэформы ён будзе праводзіць ў жыцьцё самым энэргічным спосабам.

Як мы бачым, пляны і заданьні ня так даўно ўтворанага Міністэрства Зямельнае Рэформы, на чале якога стаіць цяпер пан Асецкі, пакіраваны галоўным чынам на крэсы і кожнаму ясна, якой карысьці мы, беларусы, можам чакаць ў зямельнай справе ад такіх плянаў памянёнага Міністэрства. Няхай яе багі з такой „зямельнай рэформай!“

### Працэс украінцаў.

У Львове адбыўся працэс 11 украінцаў, якія вінаваціліся ў дзяржаўнай здрадзе, сабатажу і інш. Суд прысяжных ня прызнаў абвінавачаных вінаватымі ў здрадзе стану і прыгаварыў аднаго абвінав. на 2 гады, чатырох на $1\frac{1}{2}$ гады і аднаго на 1 год катаргі. Рэшта апраўданы.

### Галадоўка ў Самборскай турме.

Як паведамляе Львоўская газэта „Воля Народа“, ад 25.XI ў Самборскай турме распачалася галадоўка 16 палітычных вязьняў на знак пратэсту проці неадпаведнага павядзеньня адносна да іх турэмных уладаў. Вязьні гэтыя прымушаны сядзець разам з звычайнымі праступнікамі, ды адабраны ад іх і іншыя правы, якія належаць палітычным вязьням. Галадоўка трывае ўжо шосты дзень. Дырэктар турмы, хочучы зламаць галадоўку, справадзіў у турэмныя будынкі войска.

### НЯМЕЧЧЫНА.

Габінэтны крызыс у Нямеччыне зацягнуўся. Альбэрт, які перш быў згадзіўся на тварэньне габінэту, цяпер адмовіўся. Паміж партыямі цэнтру і крайнімі правымі ідуць перагаворы аб утварэньні новага ўраду.

---

Камуністычная партыя арганізавала дэманстрацыю процiў загаду ген. Сэкта аб забароне камуністычных арганізацыяў. Паліцыя старалася перашкодзіць дэманстрацыі, аднак, ня глядзячы на гэта, ў розных частках Бэрліну, адбыліся шмат-тысячныя паходы. Паліцыя адкрыла стральбу ў дэманстрантаў.

---

„Vorwärts“ паведамляе, што рэйхсвэр у хуткім часе мае пакінуць Саксонію.

---

У акупаваных абшарах у шмат якіх гарадох зноў дайшло да забурэньняў; разграблены склады правізіі. Шмат асобаў арыштавана. Есьць забітыя і раненыя.

### ТУРЦЫЯ.

Газэты паведамляюць, што Кемаль-пашы і яго жонцы былі паданы затручаныя патравы, але дактарская дапамога абаіх адратавала ад сьмерці.

### ІНДЫЯ.

У Індыі адбыліся выбары ў парлямэнт. Парлямэнт складаецца з 86 паслоў па выбарам і з 25 па назначэньню ўрадам. Дакладныя вынікі выбараў яшчэ ня ведамы, але згодна з атрыманымі весткамі перамога на старане партыі, якая займае няпрымірымае становішча да Англіі, якая так няшчадна эксплёатуе мясцовае насяленьне, ня раз ужо падымаўшае паўстаньні, каб вызваліцца ад нацыянальнага і эканамічнага ўціску.

### ФРАНЦЫЯ.

Выбары ў францускі парлямэнт назначаны на 6-га сьнежня г. г., а першае паседжаньне новага парлямэнту на 1-га студня 1924 г. Вынікі выбараў у новы парлямэнт бязумоўна будуць мець вялізарнае значэньне на палітычную сытуацыю ўва ўсей Эўропе і дзеля гэтага, зразумела тое зацікаўленьне, з якім усе народы Эўропы сочаць за разьвіцьцём выбарнае кампаніі ўва Францыі.

# З Польскага Сойму.

### Зьменшаньне пэнсыі дэпутатам.

У мэтах ашчаднасьці скарочваюцца выдаткі на утрыманьне Сойму і Сэнату. Заведзены цяпер парадак, каб інтэрпэляцыі паслоў пісаны былі зусім каратка, каб менш траціць на паперу і друкаваньне іх. 22/XI на паседжаньні сеньорен-конвэнту Сойму абгаваравалася пытаньне аб зьменьшаньні пэнсыі паслам і сэнатарам. Былі прапазіцыі аб зьменьшаньні на палову пэнсыі дэпутатам несямейным, аб невыплаце пэнсыі за час перарыву паміж сэсыямі. Пакуль што пастаноўлена, што паслы не дастануць ў гэтым месяцы 30 проц. прыбаўкі да пэнсіі, якую прыбаўку ўсё-ж атрымалі ўсе міністры і урадоўцы ўсіх катэгорый.

На апошнім паседжаньні конвэнту-сэньёраў пастаноўлена плаціць паслам пэнсію, як урадоўцам III катыгорыі.

### Украінскі Пасольскі Клюб.

У № 9 „Змаганьня“ намі было надрукована паведамленьне, узятае з польскіх варшаўскіх газэт, пад загалоўкам „Раскол ў Украінскім Клюбе“. Па спраўджаньні намі—выявілася, што гэтая вестка польскіх газэт не зусім адпавядае праўдзе, бо ніякага расколу з выхадам часткі ўкраінскіх паслоў з агульна-украінскага клюбу ня было. Цяпер мы сьцьверджаем, што ў Пасольскім Украінскім Клюбе Варшаўскага Сойму утварылася сацыялістычная фракцыя з 7 дэпутатаў, на чале з грамадз. Прыступай, якія пакуль што і ня мысьляць выходзіць з агульна-украінскага Клюбу, бо гэта нявыгодна было-б з шмат якіх прычын: панізіла-б значэньньне сілы ўкраінскага прадстаўніцтва ў Сойме, пазбавіла-б тады яго—дзеля малалікасьці клюбу—магчымасьці мець сваіх прадстаўнікоў, сяброў Клюбу, у шмат якіх Соймавых камісіях. Апошняя прычына—дужа важная. У камісіях звычайна разглядаюцца праэкты розных законаў, якія пасьля ідуць на зацьверджаньне Сойму. Прысутнасьць прадстаўніка таго ці іншага Соймавага Клюбу дае магчымасьць мець такі-сякі ўплыў на выпрацаваньне пэўнага закону і—што яшчэ важней—даець магчымасьць Клюбу заўсёды быць у курсе справы працы камісіяў, што дапамагчы можа Клюбу ў падгатоўцы да выступленьня на пленуме Сойму, калі там мае зацьвярджацца які-небудзь закон. Калі-ж Клюб малы па лічбе сваіх сяброў, дык—па прынятых Соймам правілах унутранага распарадку—такі Клюб пазбаўлены бывае права мець сваіх прадстаўнікоў у некаторых, а то нават і ўва ўсіх камісіях з рашаючым голасам.

Дзеля ўсяго гэтага далёка ня ёсьць вядомым, ці адважыцца наогул калі-небудзь сацыялістычная фракцыя Украінскага Соймавага Клюбу выйсьці з агульнага яго складу, ці палічыць яна гэта карысным, тактычным на Соймавым грунце і практычным—у справе абароны ў Сойме, як нацыянальных, так і сацыяльных правоў Украінскага Народу.

ГРАМАДЗЯНЕ! Дарагоуля расьцець. Выдаваньне цяпер газэты вымагае вялікіх коштау. Зьбірайце сярод знаёмых ахвяры на беларускі прэсовы фонд! Падтрымлівайце сваю газэту акуратнай высылкай падпісных грошай. Заахвочвайце да падпіскі другіх!

# З газэт.

### Польская прэса аб пастановах II зьезду Камуністычнай партыі Польшчы.

Пастановы II Зьезду Камуністычнай партыі Польшчы выклікалі вялікае зацікаўленьне польскай прэсы.

„Robotnik“ абураецца пастановамі зьезду і лічыць іх здрадай камуністычным прынцыпам, таму, што камуністы прыймаюць пад увагу патрэбы сялянства і нацыянальных меншасьцяў у Польшчы і стаяць за незалежнасьць Польшчы.

> „Нічога няма для іх даражэйшага, як Незалежная Польшча. Баяцца—кажуць—перамогі рэакцыі ў Нямеччыне, бо ў такім разе „ня будзе месца для незазежнай Польшчы“, за тое гаворачы аб рэвалюцыі ў Нямеччыне, камуністычная адозва завярае, што „адзінай гарантыяй польскае незалежнасьці ёсьць перамога рэвалюцыі ў Эўропе і саюз работніцка-сялянскай Польшчы з братнімі суседнімі рэспублікамі“.
>
> Удаючы гэткім спосабам... гарачую зацікаўленасьць справай незалежнасьці польскага народу, камуністы адначасна працуюць над адарваньнем крэсаў ад Польшчы, горача заклікаючы ўкраінцаў, беларусаў і літоўцаў, каб зьдзейсьнілі сваё права „да злучэньня з сваімі братамі на другой старане гранічных слупоў, убітых у жывое цела народаў“.

Відаць у галаве паноў з P. P. S., як і ў эндэцкіх галовах, ніяк ня можа зьмясьціца паняцьце незалежнасьці Польшчы з паняцьцем незалежнасьці Украіны і Беларусі. Для іх таксама „niema Polski bez Kresów!“

Пасол Строньскі ў „Rzeczypospolitej“ разглядаючы гэтыя-ж пастановы цьвердзіць, што камуністы не змагаюцца ўжо аднолькава з правіцай і лявіцай, а наадварот шукаюць грунту для паразуменьня з лявіцай. У падцьвярджэньне сваей думкі п. Строньскі прыводзіць гэткія выпіскі з камуністычнай адозвы:

> „Другі зьезд К. P. R. P. ад імя сотняў тысячаў работнікаў, якія ідуць пад яе сьцягам, зварочваецца да ўсіх партыяў, у радох якіх зарганізаваны работнікі, бедныя сяляне і ў першую чарда P. P. S. і Wyzwolenia, з заклікам да ўтварэньня супольнага фронту для барацьбы за най-

---

У мінулым годзе было йшчэ шмат значных недахватаў: многа катэдраў пуставала, дый ня былі наладжаны неабходныя вучэбна-падсобныя ўстановы. Асаблівая ўвага была зьвернена факультэтам на прадметы беларусазнаўства, у першы чарод на выкладаньне геаграфіі і этнаграфіі Беларусі. Дзеля выкладаньня геаграфіі Беларусі наладжаны асобны габінэт краязнаўства працай двух маладых вучоных беларускіх сіл: Аркадзя Смоліча (аўтара „Геаграфіі Беларусі“) і Азбукіна. Ім даручана выкладаньне агульнае і эканамічнае геаграфіі Беларусі. Дзеля выкладаньня этнаграфіі Беларусі запрошаны вядомы беларускі этнограф І. Сэрбаў, якому за яго навуковыя працы пецярбурская Акадэмія Навук прысудзіла залаты мядаль. Пастаноўлена арганізаваць асобны габінэт этнаграфіі. Апрача таго арганізаваны асобны габінэт беларускае мовы і літэратуры пад кіраўніцтвам лектара М. Пятуховіча. Факультэт вядзе перагаворы і з іншымі маладымі вучонымі Беларусі аб іх працы ў ун-це.

Жыдоўскія прадметы выкладаюць у жыдоўскай мове: агульна-жыдоўскую гісторыю—лектар Сосіс, нова-жыдоўскую філялёгію—лектар Вэйнгер, нова-жыдоўскую літэратуру—лект. Гольдбэрг, стара-жыдоўскую мову—Мэрліс. Апрача таго перабраўся ў Менск дзеля працы ў ун-це вядомы жыдоўскі вучоны праф. І. Маркон.

Заходня-эўрапэйскія літэратуры ўзяўся выкладаць выдатны расейскі прафэсар Еўлахаў.

На сацыяльна-гістарычным аддзеле, які быў поўнасьцю укамплектаваны ў леташнім годзе, у сувязі з адчыненьнем 3-го курсу ўведзена спэцыялізацыя па беларускай, расейскай і жыдоўскай гісторыі.

На натуралістычным аддзеле запрошаны праф. Панамароў (з Казані), лектар Папоў, малады растоўскі батанік Зьбіткоўскі (беларус), заолёг праф. Маўродіаді (з Растова) і мінэралёг лектар Блюдуха (беларус). З Самары прыехаў заслужоны і вядомы спэцыяліст па астраноміі праф. Міхайлоўскі. Адкрываюцца і папаўняюцца габінэты: фізычны, заалягічны, батанічны і мінэралягічны.

На 3-ім курсе чытаюцца мэтадалягічныя дысцыпліны. Пад кіраўніцтвам спэцыяльнае мэтадычнае камісіі студэнты—будучыя пэдагогі — будуць адбываць практыку ў некалькіх менскіх школах.

### Факультэт грамадзкіх навук.

Дэкан ф-ту—праф. С. Кацэнбогін.

Сёлета факультэт заканчвае сваю поўную арганізацыю і вясною 1924 г. дасьць свой першы выпуск.

У пачатку сёлетняга акадэмічнага году факультэтам запрошаны новыя прафэсары: па міжынароднаму праву—Краўчэнка, па дзяржаўнаму праву—праф. Дурдзінеўскі, па крымінальнаму праву і працэсу — праф. Шыраеў, па грамадзкаму праву і працэсу—праф. Грэдінгер, па статыстыцы—праф. Лубны-Гэрцык і гаспадарчай статыстыцы—праф. Арцімоўскі.

Летась аставаліся незамешчанымі катэдры эканамічнае геаграфіі і кааперацыі. Сёлета эканамічную геаграфію Расеі будзе чытаць праф. Арцімоўскі, а эканамічную геаграфію Беларусі—М. Азбукін.

У гэтым акадэмічным годзе будуць функцыянаваць гэткія нова-арганізаваныя габінэты: юрыдычны, статыстычны, лясное экономікі і таваразнаўства. Тэорэтычнае і практычнае выкладаньне лясное эканоміі мае нязвычайна вялікую вагу для такой лясістай старонкі, як Беларусь, і Б. Д. У.—адзіны унівэрсытэт у С. С. Р. Р., які мае асобную катэдру лясное эканомікі.

У мінулым акад. годзе на *эканамічным* аддзеле ф-ту было 13 катэдраў з 7-ю сэмінарыямі на 1-м курсе і 8 катэдраў з 8-ю сэмінарыямі на 2-м курсе. На *юрыдычным*—13 катэдраў і 7 сэмінарыяў на 1-м курсе, 11 катэдраў і 10 сэмінарыяў—на 2-м.

Студэнтаў у мінулым акадэмічным годзе было: на эканамічным аддзеле—на 1 курсе 251, на 2 к.—110, на юрыдычным адзелле--на 1 курсе 308, на 2 к.—101. Сёлета на абодва аддзелы паступіла новых студэнтаў больш за 400.

### Рабочы факультэт.

Гэты факультэт дае агульнае і даволі ўсестароннае ўзгадаваньне сваім студэнтам работнікам, якіх мае каля 700.

Вясною с. г. факультэт даў ужо свой першы выпуск—40 асоб. Вясною 1924 будзе другі выпуск у ліку каля 100 асоб.

Дэкан факультэту—В. Тэпік.

### Унівэрсытэцкая Бібліатэка.

Унівэрс. Бібліатэка мае каля 130.000 тамоў кніг. Загадавае Бібліатэкай гр. Сіманоўскі.

На жаль, прыведзеныя ведамасьці—далёка няпоўныя: яны абыймаюць толькі найнавейшую дзейнасьць Б. Д. У., але не даюць дэтальнага абраза таго, што ў ім ёсьць наагул, што створана ад самага пачатку істнаваньня унівэрсытэту. Гэтак, мы ня маем падробнага сьпісу прадметаў, якія выкладаюцца на паасобных катэдрах і аддзелах, — а пэдагагічны факультэт мае ажно чатыры аддзелы—так, як было раней у Пэдагагічным Інстытуце, што быў пераутвораны ў Беларускую Галоўную школу. Але і тая жменя фактаў і імёньняў прафесароў паказвае, што справа ўнівэрсытэту пастаўлена даволі паважна. Можам толькі пажадаць аднаго: каб чым хутчэй была праведзена поўнае зьбеларушчаньне Б Д. У., якое ўжо распачата з прадметаў беларусазнаўства, агульнае тэорыі права і др.

І. М—ка.

бліжэйшыя мэты народных масаў Польшчы, для ратаваньня перад навалай рэакцыі..."

„... Бязьзямельныя і малазямельныя сяляне могуць быць пэўнымі, што работнікі ня будуць змагацца з іх імкненьнямі да набыцьця і павялічаньня ўласнага кавалка зямлі... Кожны-ж работнік павінен зразумець, што рэвалюцыя ў Польшчы будзе альбо рэвалюцыяй работніцка-сялянскай, альбо яе зусім ня будзе. Прэч аб'еднаньне сялянска-буржуазыйнае! Хай жыве еднасьць сялянска-работніцкая! Вось лёзунгі, якія вядуць да перамогі..."

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

### ХРОНІКА.

**Падзяка.** Т-ва Беларускае Школы ў Радашкавічах выражае шчырую падзяку Беларускаму Камітэту ў Чыкаго за сабраныя і прысланыя 55 даляраў на карысьць сірот і дзяцей бедных бацькоў—вучняў у Радашкоўскай Беларўскай Гімназіі і просіць у далейшым памятаць аб іх.

**Рада Т-ва Белар. Школы ў Радашкавічах.**

Вясною гэтага году беларуская вучашчаяся моладзь гор. Вільні падала да дэлегата ўраду на зацьверджаньне статут, які меў на мэце культурна-прасьветную працу сярод беларускай моладзі. Атрымана афіцыяльнае паведамленьне аб тым, што статут гэты не зацьверджаны.

**Прызыў 1902 г.** Вайсковыя ўлады аканчальна ўстанавілі тэрмін прызыва ў армію 1902 г. на 3 сьнежня. Адначасна з прызывам 1902 г. будуць прызваны і ахвотнікі 1903, 1904 і 1905 гадоў.

### Галадоўка ў турме у Горадні скончылася.

Галадоўка палітычных вязьняў ў Горадзенскай турме цягнулася ад 19 да 26 гэтага лістапада. Прычынай галадоўкі—як нас паведамляюць з Горадні—была заява sędziego śledczego, pana Komara, што справа іхняга сьледцтва будзе яшчэ цягнуцца месяцаў 18. Галадоўку спынілі вязні, паверыўшы словам пракурора, што сьледцтва канчаецца і мае ў хуткім часе адбыцца суд. Галадавала 16 асоб, якім прыпісваецца нібы прыналежнасьць да партызанкі. Справа гэтых заарыштаваных, якія сядзяць у турме ўжо паўтара годы, усё цягнецца і сьледцтва не закончана дагэтуль. З усяе гэнае групы абвінавачаных не галадаваў толькі адзін—семнадцаты—Базыль Юрэчка з прычыны страшэнна падупаўшага здароўя, як вынік біцьця яго ў часе паліцэйскага дазнаньня, што было $1^1/_2$ гады таму назад, ад чаго ён дагэтуль ніяк паправіцца ня можа.

## Весткі з вёскі.

### М. Косава.

### Сынок Бацькі Балаховіча!

Камэндант косаўскай павятовай паліцыі п. Саліковіч быўшы капітан арміі Балаховіча, а цяпер павятовы камэндант паліцыі, робіць такія рэчы: 19/X 23 г. прыехаў да вёскі Запольле гміны Косаўскай да солтыса Мігеля Паўла і затое, што ён не стаў яму „ва фронт" і не адказваў „так точно—нікак нет", загадаў пасадзіць Мігеля на тры дні ў халодную, а калі Мігель стаў прасіць, каб дараваў, дык пан Камэндант сказаў: „Калі пойдзеш адразу да Косава, дык будзеш сядзець 3 дні, а калі будзеш лезьці ў вочы, то будзеш сядзець 5 дзён. Мігель забраў торбачку з хлебам і пашоў на адседку. У той самы дзень зьявіўся вечарам да Камэнданта, які спаткаўшы яго кажа: „Зараз буду з табою гаварыць", але замест Камэнданта прышоў якісьці чыноўнік і зачаў няміласэрна біць Мігеля да прыгаварваць: „Будзеш ведаць, як гаварыць з панам Камэндантам. Калі Мігель страціў прытомнасьць, тады яго адвялі у халодную; а гадзіне 12 у ночы прывялі яго ізноў ды Канцэлярыі, але тут ужо зьявіўся сам п. Камэндант дый кажа: „Ці ты ведаем, хто я?" Той адказвае якжа, ведаю, Пан—Камэндант; але як больш вялічаць, дык ня ведаю, я чалавек не вайсковы". Тады пан Саліковіч давай біць Мігеля, дзе папала, а калі сам зусім змучыўся бьючы. дык паклікаў якогась паліцыянта і казаў яму яшчэ біць. Калі Мігель зусім страціў прытомнасьць, тады выпхнулі яго на вуліцу. Пасьля гэтых пабояў Мігель цяпер кепска бачыць левым вокам.

Наагул пан Камэндант Саліковіч адзначаецца катаваньнем люднасьці.

**Падарожны.**

### Радашкавічы, Вялейск. пав.

### Беларускі спэктакль.

Вучнямі Радашкаўскае Белар. Гімназіі на чале з вучыцелем Я. Гаўрылікам 25 лістапада бяг. году была пастаўлена ў памяшканьні пачатковае школы вядомая п'еса Ф. Аляхновіча „Цені". Для правінцыяльнае публікі, якая складалася пераважна з моладзі і запоўніла ўсю, досіць вялікую залю, „Цені" — п'еса засур'ёзная і, як відаць, ня лёгка зразумелая. Роля Матыльды ўдалася Ганьне Куніцкай, як мае быць Чысты беларускі выгавар (чаго гэтак часта не хапае шмат якім артысткам белар. сцэны), выразная дыкцыя, нават самы тэмбр голасу аматоркі адпавядаў няпростай, не бытавой пэрсоне Матыльды. Я. Гаўрылік у ролі Сьцяпана занадта стараўся быць копіяй ігры самога Аляхновіча, да вельмі нэрвова тупацеў па сцэне. Пры большай самастойнасьці і натуральнасьці ён могбы выйсьці шмат лепей. Багданскі ў ролі Міхася быў ня меней на сваім месцы, як і Матыльда-Куніцкая. Маці (Гаўрылічанка) і не магла ўдацца добраю, бо цяжка-ж вучаніцы сярэдніх клясаў гімназіі граць ролю немаладое ўжо жанчыны, на якую зваліўся ўвесь цяжар сямейнага гора.

Русіцызмы—неабходная прыналежнасьць кожнага гуртка аматароў беларускае сцэны (пачынаючы з Вільні)—былі чутны й на гэты раз, аднак злавіць іх, як адзінковыя абмылкі, публіка наўрад ці змагла. А было ўсё такі чуваць: „жана" замест „жонка" (Куніцкая, Гаўрылічанка), „уходи" замест „выходзь" (Гаўрылік).

Калі граюць п'есу дзеці самага нашага народнага грунту, дык лёгка заўважыць і няправільныя звароты мовы, ўжытыя паважаным аўторам „Ценяў"—напр.: „Што, мама, кажа?" (польскі зварот) замест „Што Вы кажаце, (мама)?" і інш.

Пасьля спэктаклю моцнае ўражаньне пакінула дэклямацыя вершаў вучнямі малодшых клясаў.

Нарэшце сьпяваў гімназіяльны хор. Нажаль, большасьць сьпеваў складалася з чужых мэлёдыяў пры беларускіх аднак-жа словах, за выняткам (зусім зразумелым) „Gaudeamus". Беларускімі песьнямі былі толькі два нумары: „Рабіначка" ды „Ой ня кукуй, зязюленька". А пяяць „Гэй наперад" на мэлёдыю Пятроўскага маршу (!) ды „Лявона" хіба-ж пара ўжо й пакінуць.

**З.**

## УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

### З Менску.

**Ахова маральнасьці дзяцей.** Рада Народных Камісараў Беларускай Сацыялістычнай Рэспублікі выдала ў Менску распараджэньне аб ахове маральнасьці дзяцей. Згодна гэтаму распараджэньню дзеці да 16 гадоў не павінны быць прысутнымі ў тэатрах і кіно, калі там на сцэне ці экране яны маглі-б бачыць штонебудзь не зусім адпавядаючае іх узросту або двух сэнсовае.

Варта было-б і ў нас ў Вільні, каб неяк была зьвернута увага на быцьцё дзяцей ў кінематографах, дзе яны заўсёды цяпер вольна цікавяцца „erotycznemi dramatami".

## Допісы.

### Беларусы у Амэрыцы.

(Ад уласнага карэспандэнта).

### Лекцыі і даклады Я. Варонкі.

Сьледам за першым дакладам Я. Варонкі ў Чыкаго на тэму: „Беларусь нашых дзён", абвешчаны такія яго чарговыя лекцыі і даклады: 2) „Нацыянальнае пытаньне ў Радавай Расеі і Беларусь", 3) „Чым павінны памагчы Бацькаўшчыне амэрыканскія беларусы?" 4) „Гістарычныя шляхі Беларусі", 5) „Беларускі народ і беларуская мова", 6) „Становішча беларускае школы", 7) „Беларускае пісьменьніцтва нашых дзён", 8) „Багацьці Беларусі", 9) „Адраджэньне Беларусі, як дзяржавы". Выпаўненьне гэтае праграма разложана на такія гарады: Чыкаго, Нью-Іорк, Філадэлфія, Піцбург, Дэтройт, Кеноша, Гран-Рапідс і інш., скуль ужо Беларускае Народнае Таварыства

**Ці споўнілі Вы свой абавязак адносна Цантр. Беларускай Школьнай Рады? Ці заплацілі Вы належачую ад Вас грашавую складку за гэты месяц?**

ў Іллынойсе атрымала рад запросін да Я. Варонкі ад тамтэйшых беларускіх арганізацыяў.

## БІБЛІЯГРАФІЯ.

Apokryf i inne nowele. Tłomaczono z białoruskiego przez F. A.

Першы раз у перакладзе на польскую мову паявіўся зборнік апавяданьняў беларускіх аўтараў. Безумоўная заслуга выдаўца перад польскім грамадзянствам, якое наогул мала цікавіцца беларускім культурным рухам і сярод каторага шмат яшчэ хто думае, што беларуская літэратура пачынаецца вершам Гурыновіча „Каб ты ведаў брат кумішча", а канчаецца „Дудкай" Багушэвіча.

У кніжку ўвайшлі гэткія творы: „Апокрыф" М. Багдановіча, які паслужыў і загалоўкам для цэлай кніжкі, „Малітва малога Габрусіка" З. Бядулі, „Бярозка" А. Лявіцкага і „Сьвяты Божа" Ф. Шантыра. Пераклад зроблены добрай польскай мовай, асабліва ўдачна пераложаны „Апокрыф" з захаваньнем колёрыту старай мовы, які належыцца біблейнаму стылю. Што датычыцца трох іншых, узятых з сялянскага быту, апавяданьняў, дык зьяўляецца пытаньне, ці добра зрабіў перакладчык, ухіляючыся так далёка ад „тутэйшай" польскай мовы і праводзячы дыялёг надта „літэратурна". Калі-б захаваўшы чыстасьць мовы ў апісальнай частцы твору, у дыялёгу перакладчык адзначыў-бы „тутэйшасьць", дык-бы, ня страціўшы нічога з мастацкага боку, кожны твор быў-бы больш колерным

Яшчэ для нас не зразумела, чаму перакладчык (ці выдавец) агравічыўся толькі гэтымі чатырма кароткімі апавяданьнямі? Дык-жа ў нашай літэратуры ёсьць багата новэлістаў, якіх творы бяз сораму можна кінуць на эўрапэйскі кніжны рынак. Праз гэта вонкавы выгляд кніжкі робіць уражэньне нейкай брашуры, а не літэратурнага томіка. І дзіўна, чаму ў кніжку не папаў ні водзін твор пладавітага і таланнага Коласа, а затое зьмешчаны „Сьвяты Божа" Ф. Шантыра, не пакінуўшага глыбейшага сьледу ў гісторыі нашай літэратуры. Паміж багацейшага ліку апавяданьняў „Сьвяты Божа" быў-бы на месцы, а так можа здавацца быццам Шантыр'ёсьць адна з вялікшых падпор беларускай літэратуры.

Кніжка выдана чыстым друкам, на добрай паперы, і наагул робіць добрае ўражаньне.

**К. О.**

## Сельска-гаспадарскія парады.

### Абвязваньне садовых дрэў на зіму.

Даждаўшыся першага марозу, гаспадар мусіць парупіцца аб сваім садзе, а найбольш аб тых маладых дрэўцах, якія ён насадзіў сёлета вясной ці ў восень. Калі іх не прыглядзець і пакінуць зімаваць так, дык некаторыя з іх могуць зьмерзнуць, а некаторых (калі ня ўсе) абгрызуць зайцы і мышы. Уся абарона садовых дрэўцаў ад марозу і грызуноў складаецца ў добрай абвязцы на зіму ствала і кароны дрэва.

Лепшым матэр'ялам для гэтага трэба лічыць яловыя лапкі, або цэлыя яловыя сукі, але толькі бахматыя. Лапкі абстаўляюцца кругом ствала ігалкамі ў ніз (верх сука павінен быць уніз, а камель у гару). Каб лапкі шчыльна аблягалі ствол іх абвязваюць у трох мяйсцох саламяным вязьмом, сукі кароны зьбіраюцца ў мейсца, абкладваюцца лапкамі і абвязваюцца таксама вязьмом. Там дзе няма скуль узяць лапак, дык можна абвязваць дрэўцы саломай, але дзеля таго, што ў саломе часта заводзяцца мышы, трэба салому намазаць чым-небудзь сьмярдзючым (францускім алейкам, дзёгцем, і інш.). Абвязваць саломай можна кулявой, абстаўляючы ёю ствол дрэўца, як лапкамі, але найлепей для гэтага будзе цяртуха, якая ўжываецца на корм. З цяртухі трэба накруціць доўгіх перавёслаў у вяршок грубіні і гэтымі перавёсламі абкруціць ствол і таўсцейшыя сукі, пачынаючы абкручаваньне ад зямлі. Абкручываць трэба сьціпна, каб баранак да баранка прыходзіўся шчыльна. Каб не залезалі ў салому мышы, лепей будзе, калі абставіць хоць на аршын зьнізу такое абкручаное саломай дрэва, яловымі лапкамі.

Замест абвязваньня лапкамі і абкручываньня дрэў саломай, можна абмазываць на зіму дрэвы. На абмазку бяруць гліны, кароўяга калу, вапны, попелу з печы і робяць с гэтага густую кашу якой пасьля ябмазваюць дрэва.

Як толькі выпадзе першы добры сьнег, трэба добра абтаптаць яго каля дрэваў. Гэта будзе добра і тым, што не падточацца мышы і да каранёў не так будзе даходзіць мароз. Зімой трэба пільнавацца, каб па дрэўцах не зьбіралася многа сьнегу, бо гэты сьнег можа паламаць сукі, альбо усё маладое дрэўца.

**Я. П.**

***Пішыце да нас аб жыцьці-быцьці вёскі, аб сваіх ворагах і прыяцелях. Хай кожны падпішчык „Змаганьня" будзе і яго супрацоўнікам.***

Рэдактар-Выдавец **М. Шыла**.

Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.